Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 12 - 18 верасня 1997 года

# Рэгіянальная газета

3 5 6 старонкі Маладзёжны ўкладыш №4

Уся 8 старонка Прыватныя аб'явы

№37 (125)

Цана 2000 руб. Інфармацыйна-рэкламнае выданне

## Вернікі жывуць па законе. Не толькі боскім



*МАЛАДЗЕЧНА. Тут зарэгістравана 9 рэлігійных абшчын. Дэструктыўных сектаў накшталт "Белага братэрства" не існуе.*

А вось місіянерская дзейнасць госця з-за мяжы (царква Хрыста г. Эвансвіля, што ў ЗША) Бары К. Грына не так даўно забаранілі. Былі парушаны палажэнні закона "Аб свабодзе веравызнання і рэлігійных арганізацый".

Для тых, хто не ўступае ў канфлікт з мірскім законам цяпер не чыніцца перашкод. Сведчаннем гэтага новы касцёл рыма-каталікоў, які абжываецца вернікамі ў самым цэнтры горада.

*Сяргей АНДРЭЕЎ.*

*На фота: застаўся клопат толькі з парадным уваходам. Будаўнічыя работы ля касцёла завяршаюцца.*

## Навіны

### Рабочыя са школы

*МАЛАДЗЕЧНА. Рэальныя класы СШ №5 адкрытыя на базе мясцовых вучылішчаў ПТВ-135, ПТВ-21. Вучні гэтых класаў разам з пасведчаннем аб сярэдняй адукацыі атрымаюць рабочыя спецыяльнасці.*

За школднасць - дадатковую арганізацыю навучальнага працэса - дырэктары вучылішчаў, іх намеснікі атрымаюць 10% да службовага акладу. Зацікаўлены бок звернецца за матэрыяльнай дапамогай да ВА "Электрамодуль", швейнай фабрыкі "Дзіната", рэстаранаў "Стары замак", "Маладзечна", каб грунтоўна наладзіць практычную частку навучання.

### Нетрадыцыйныя дажынкі

*АШМЯНЫ. На дажынках у эксперыментальнай базе "Баруны" апошні дажыначны сноп асвяцілі ў мясцовым касцёле. А зерне з яго дабавілі ў насенне, каб і ў наступны раз атрымаць добры ўраджай.*

Падчас свята дырэктар базы Пётр Навойчык частаваў усіх караваем. У сталоўцы школы праходзіла забаўляльная праграма. Мерапрыемства скончылася нетрадыцыйна - пацалункамі ў шчочку арганізатараў свята, работнікаў аддзела культуры райвыканкома.

*Сяргей АНДРЭЕЎ.*

### Вёска знікла

*ВІЛЕЙКА. Рашэннем Мінскага аблвыканкома Вілейка пазбавілася адміністрацыйнай адзінкі.*

З геаграфічнай карты выдаленая вёска Зевіна. Летам памерла апошняя жыхарка вёскі, 82-гадовая Кацярына Сідараўна Бохан. Нават былую вёску, што на Іжаншчыне, не засяляюць дачнікі. Па пустых дамах гуляе вецер.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

### Як у райцэнтры

*АСТРАВЕЦ. У Міхалішскай сярэдняй школе плануюць неўзабаве распачаць выкладанне новага прадмета - польскай мовы. З просьбай аб навучанні дзяцей польскай мове да кіраўніцтва школы звярнуліся бацькі. Іх памкненні зразумелі і паўшлі насустрач.*

- Цяпер, - зазначыў дырэктар школы Эдуард Свірыд, - бацькі падаюць заявы, ужо 15 дзяцей жадаюць вывучаць польскую мову. Выкладаць яе плануюць два разы на тыдзень факультатыўна, бо сабраліся дзеці розных узростаў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Адным абзацам

Зробленай на тыдні сумеснай заявай Савета Міністраў і Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь урад аб'явіў аб устанаўленні гранічнага каэфіцыента павышэння тарыфаў на цеплавую энергію да заканчэння ацяпляльнага сезона на ўзроўні 1, 2. З улікам гэтага доля пакрыцця насельніцтвам затрат на жыллёва-камунальныя паслугі складзе ў сярэднім 44 працэнты. Па меркаванні ўрада, указаныя змены цэнаў і тарыфаў будуць кампенсаваныя прынятымі з 1 верасня мерамі сацыяльнай абароны - павышэннем мінімальнай заработнай платы і пенсій.

Удаведнасц- з рашэннем Нацыянальнага банка аб зніжэнні стаўкі рэфінансавання да 38 працэнтаў камерцыйнымі банкамі устаноўленыя новыя стаўкі для прыцягнення сродкаў насельніцтва 38-45 працэнтаў гадавых. У далейшым, па меры зніжэння інфляцыі, стаўка рэфінансавання будзе таксама зніжацца, што прывядзе да памяншэння ставак па крэдытах і дэпазітах банкаў. Нацыянальны банк заявіў, што стаўкі будуць падтрымлівацца на ўзроўні, які будзе забяспечваць захаванасць і даходнасць грашовых сродкаў прадпрыемстваў і насельніцтва, размешчаных на тэрміновых дэпазітах у банках.

Заўтра, 13 верасня, старажытнаму гораду Пінску - 900 год. Ва ўрачыстасцях з нагоды юбілею прыме ўдзел прэм'ер-міністр краіны С. Лінг. Пінчанам - нашы сардэчныя віншаванні.

Аляксандр Лукашэнка ў кастрычніку наведае Разанскую і Ліпецкую вобласці ў час Дзён Беларусі ў гэтых рэгіёнах. Заправшэнне прэзідэнта менавіта ў гэтыя губерніі абумоўлена іх прыналежнасцю да так званага "краснага пояса" - падтрымліваючых камуністаў электаратам.

## Анонс

### Унутраны свет паэта



Пасля смерці **Максіма ТАНКА** становяцца вядомымі новыя і новыя факты з жыцця нашага земляка, якому 17 верасня споўнілася б 85 год. У наступным нумары мы змяшчаем публікацыю **Міхаіла ЧАРНЯЎСКАГА**, падрыхтаваную па дзённікавых запісах паэта.



Сёння ў Маладзечне - госці з пасольства ЗША

(падрабязнасці на 7-й стар.)

## Цэнтр занятасці

### Беспрацоўныя любяць бульбу

*ВІЛЕЙКА. Раніцай шматлюдна ля цэнтра занятасці. Па рашэнні гарвыканкома беспрацоўныя павінны адпрацаваць на грамадскіх работах 10 дзён у месяц.*

Першымі запрасілі да сябе на ўборку бульбы калгасы "Вязынь", "Рассвет". А сёння ўжо 10 гаспадарак карыстаюцца дапамогай беспрацоўных і пенсіянераў. З 700 чалавек, што адпраўляюцца на бульбяныя палеткі - 330 пенсіянераў. Маламаёмасныя імкнуцца забяспечыць сябе бульбай на зіму.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

*МЯДЗЕЛ. За пачатак верасня 8 непаўналетніх сталі на ўлік у цэнтр занятасці. Гэта выпускнікі школ, якія не паступілі ў вышэйшыя, сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы.*

Хутчэй за ўсё, яны нядоўга будуць мець статус беспрацоўных. Цэнтр занятасці кожнаму даў магчымасць набыць спецыяльнасць (на выбар) повара, бухгалтара, масажыста, сакратара-машыністкі. Калі летась за 8 месяцаў працаўладкавана 159 чалавек пры 480 зарэгістраваных на пачатак верасня, то сёлета - 249 пры 379.

*Яніна БУГЛАК.*

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск 12 - 18 верасня 1997 года

# Маладзёжная рэгіянальная газета

№4 верасень

**У капеечку**

## Дзённік старога ўзору як ідэалагічная дыверсія?

***Тыдзень, як пачаўся новы навучальны год, але ў школьных калідорах ніяк не супакояцца бацькі. Навошта дзяцей прымушаюць карыстацца дзённікамі новага ўзору?***

Яны, калі і адрозніваюцца ад старых, то ў горшы бок. Раней школьнік запісваў хатняе заданне на сямі сантыметрах. Цяпер невядома, як усё змясціць на 4,5 см.

- Старыя дзённікі, калі і набылі іх летам, сталі непатрэбнымі, - разводзяць рукамі настаўнікі.

Маўляў, такі загад Міністэрства адукацыі. Справа не ў выкінутых грошах. З "новага" выдалілі зварот да дзяцей дысцыплінавана паводзіць сябе на вуліцах, указанні па вядзенні дзённіка. З вокладкі папярэдніка - любімых герояў мультсерыялаў. Замест усяго змясцілі панараму плошчы Незалежнасці Мінска. А галоўнае адрозненне - на развароце "новага" змешчаныя дзяржаўныя герб, сцяг і верш:

...Навокал жыццё расцвітае -
І песня ўзлятае сама.
Мне лепей ад роднага краю
Нічога на свеце няма...

*Ад бацькоў Анатоль Ф.*

*P.S. Апошнімі днямі стала вядома, што ў гэтым навучальным годзе міністэрства ўсё ж дазволіла карыстацца дзённікамі "старога ўзору". Разам з дзённікам "новага ўзору". І толькі з наступнага года адзіным абавязковым дзённікам будзе той, дзе немагчыма запісваць поўнасцю і падрабязна дамашнія заданні. У вас ёсць яшчэ час, школьнікі і гімназісты!*

***Рэдакцыя.***

Запісы дамашніх заданняў у новым дзённіку - задачка для Шэрлака Холмса:

| | | | |
|---|---|---|---|
| *Рус.лит.* | *с.3-14, Чит.Воп.* (эпит гипер.) | | |
| *Англ.мова* | *Слоў.дык.усм.N15-16* | | |

"Маладзёжка" прапануе дасылаць самыя цікавыя і смешныя скарачэнні ў рэдакцыю. У №6 падвядзем вынікі і вучань, які дашле найлепшыя ўзоры, атрымае карысны прыз!

# Агурок на лбе - лепшы сродак ад спякоты



**Мая суседка, дзесяцікласніца маладзечанскай СШ №9 Алеся Саковіч сёлета прывезла свой залаты загар з Кіпра:**

- Асацыяцыя гайдаў Кіпра запрасіла беларускіх аднадумцаў да сябе. З маладзечанцаў ездзіла ў госці я. Дабіраліся самалётам 3 гадзіны. У аэрапорце сустракалі гваздзікамі і яблыкамі. Прыбыццё, урачыстыя моманты здымала мясцовае тэлебачанне.

Першыя ўражанні - жоўты пясок, сухія кусты, +32 градусы. Ноч у лагеры дзьмуў моцны вецер, якога па словах кіпрыётаў, не было гадоў 20. Мы шмат падарожнічалі па гарах. На самым высокім пункце пільнавалі ўсход сонейка.

Ля горада Пафаса бачылі камень, з-за якога калісьці выплыла Афрадыта. У тым месцы заўсёды вялікія хвалі. У вадаспадзе мы мылі рукі. Але найбольш уразіў музей марской прыроды Ае Напе: рэшткі дагістарычных рыб, чарапах, раслін. Спадабаўся Луна-парк колькасцю атракцыёнаў. Вышыня некаторых дасягае нашай дзевяціпавярхоўкі.

**- Як наогул бавяць час на Кіпры! Што ядуць!**

- Удзень усе на працы. Як сцямнее, адкрываюцца бары, пабы, дыскатэкі, кінатэатры. Запальваецца вялікая колкасць ліхтароў. Супы не ядуць. Перавагу аддаюць садавіне, салатам. А так, як і мы, спажываюць бульбу, мяса.

Кожны дзень мы праводзілі на моры. А дома (жыла я ў сям'і дыпламата) гуляла на камп'ютэры, у більярд. Пад дахам вельмі спякотна. Таму нам параілі выразаць скурку агурка і класці на лоб, мы гэта зрабілі і зняліся на фота. І сапраўды, стала лягчэй. З задавальненнем засталася б на Кіпры яшчэ на нейкі - працяглы - тэрмін.



***Запісала Таццяна МІР.***

У падрыхтоўцы нумара прыняла ўдзел грамадская арганізацыя "САНАТА-Таленавітыя дзеці".

**Пазяхалачка**

## Калі ты пазяхнеш

ад 7 да 8 - будзеш добра бавіць час
ад 8 да 9 - пасумуеш
ад 9 да 10 - будзе сустрэча
ад 10 да 11 - ты добра выглядаеш
ад 11 да 12 - прысніш добры сон
ад 12 да 13 - аб табе нехта думае
ад 13 да 14 - патанчыш
ад 14 да 15 - непрыемнасці
ад 15 да 16 - сварка
ад 16 да 17 - знаёмства
ад 17 да 18 - удача
ад 18 да 19 - размова
ад 19 да 20 - ты вельмі падабаешся "свайму" хлопцу
ад 20 да 21 - аб табе ўспамінаюць родныя
ад 21 да 22 - нехта прызнаецца ў каханні
ад 22 да 23 - успамінае цябе твой хлопец
ад 23 да 24 - нехта цябе кахае

***Наташа ЗНАЙКА.***

**Адзін на работу, другі — украў, выпіў, сеў...**

## ПРАЦАВАЛІ

**СМАРГОНЬ.**

Моладзь да 18 гадоў

*Чэрвень*

Аграфірма "Вілія". 60 навучэнцаў СШ №5 працавалі на праполцы гароднiны.

Калгас імя Леніна. 10 навучэнцаў СШ №1 прапалвалі зерневыя.

*Ліпень*

Аграфірма "Вілія", лясгас. 74 навучэнцы СШ №1, 5.

Тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне. 1 дворнік.

Аграфірма "Вілія". 2 хлопчыкі збівалі тару.

*Жнівень*

Збожжасклады калгасаў імя Дзяржынскага, Леніна, "Савецкая Беларусь", імя Аляксандра Неўскага, "Кастрычніцкі", саўгаса "Смаргонскі" - 100 чалавек.

Аграфірма "Вілія" - 20 чалавек.

*Вясна - лета (6 мес.)*

18 чалавек на розных грамадскіх работах у горадзе і раёне.



## ВЫПІВАЛІ

**МАЛАДЗЕЧНА.**

*За летні перыяд моладзь (да 30 год) задала работы псіханеўралагічнаму дыспансеру.*

На ўлік пастаўлены 4 наркаманы, 12 алкаголікаў (афіцыйны дыягназ), 7 п'яніц (бытавое п'янства), 4 падлеткі, якія, па іх словах, зрэдку ўжываюць. А па дадзеных міліцыі і чыноўнікаў, "не прасыхаюць".

## КРАЛІ

**СМАРГОНЬ.**

***За 8 апошніх месяцаў зарэгістравана 62 злачынствы з удзелам 44 непаўналетніх.***

Летам з гэтай сумнай лічбы адбылося толькі 6 злачынстваў пры ўдзеле 9 чалавек. Самае распаўсюджанае - крадзяжы з аўтамашын. 47 крадзяжоў. Займаюцца гэтым 14-18-гадовыя.

За 8 месяцаў разглядалася 14 спраў аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў у адносінах да 20 дзяцей. На лета выпала 10 спраў.

## Дзе вы, летнія дзянькі?

Што можа быць цікавейшым за летнік адпачынку! Няхай вас не ўвядзе ў зман міліцэйская фуражка начальніка летніка, чорныя акуляры старшага выхавацеля. У летніках няма мафіёзных разборак. Там адпачываюць. І пасля лічаць дні, каб заехаць зноў.





***На фота Людмілы ГЛІНСКАЙ: "Лясны гарадок", што ў Даманаве Вілейскага раёна, адзначыў 40-годдзе.***

# ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАННЯ



## Понедельник 15 сентября

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45** "Музыкальная обойма". **7.50** "Осенние этюды". Киноочерк. **8.00** Резонанс. **8.50** Телебарометр. **9.00** Здоровье. **9.30, 17.45** Экономикст. **9.40** М/ф. **9.50** Темная комната. **10.15** Телевизионный Дом кино. **10.50** Зеркало. **11.10, 18.15** Х/ф "Берег его жизни". 1-я с. **12.15** Музыкальный салон с Элеонорой Езерской. **13.00, 15.00, 18.00, 23.25** Новости. **15.15** "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. **15.45** ТВ — школе. Белорусская литература. **16.15** На добрый лад. **16.30** Гости в дом. **17.00** Музыкальный антракт. **17.10** "Охраняется государством". Д/ф. **19.20** Тема дня. **19.40** "Музыкальная обойма". **19.45** "Мечтания". Телеочерк. **20.10** Криминальная хроника. **20.30** "Кто это?" **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Х/ф "Когда деревья были большими".

**ОРТ** **15.05** Звездный час **15.40** "Гарри — снежный терминатор". **16.05** ...До шестнадцати и старше **16.30** Вокруг света **17.00, 23.40** Новости **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.05** Погода **18.10** Час пик **18.35** "Угадай мелодию". **19.00** "Мы" **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время **20.45** "Полтергейст-2" **21.45** "Театр + ТВ". **22.25** Х/ф "Дети Ивана Кузьмича" **23.50** Пресс-экспресс

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** "Ветер в спину". Телесериал (Канада). **8.15, 17.35** Наш Пушкин. **8.20** Лукоморье. **8.50, 9.50** Товары—почтой. **9.00** "Санта-Барбара". **13.20** На заметку. **13.25** Деловой автограф. **13.30** Свой дом. **13.40** "Путешествие молодого композитора". Х/ф. **15.30** Лукоморье. **16.20** Православный календарь. **16.25** "Санта-Барбара". **17.20** Это Москва. **17.40** История одного события. **17.55** "Ветер в спину". Телесериал (Канада). **19.35** Национальный интерес. **20.05** "Робот-полицейский". Х/ф (США). **22.15** Вовремя. **22.25** Добрый вечер. **23.15** Дежурная часть. **23.30** "Киношок-97". Церемония открытия кинофестиваля.

**5** **15.00** Международное обозрение. **15.30, 18.30, 21.30** Информ ТВ. **15.40, 20.30** Телеслужба безопасности. **15.55, 20.00** Телестанция "Моя Россия". **16.40** Детское ТВ. **17.25** Телемагазин. **18.45** Спорт. **18.55** Большой фестиваль. **19.10** "Пивные бароны". **20.50** Пенальти. **21.50** Спорт. **21.55** Ритмы города. **22.25** "Свободный полет".

**НТВ** **15.00** Сегодня днем. **15.20** Финансы и бизнес. **15.30** "Улица Сезам". **16.00** Док. сериал "ХХ век в войнах" (США). **16.55** Криминал. **17.00** Впрок. **17.15** Дистанция. **17.45** Футбольный клуб. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.00** Х/ф "Автобусная остановка" (США). **21.45** "Кружева". **22.35** Сегоднячко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.15** В печать. **23.25** Синемания: все о кино.

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.55** "Шесть новостей". **6.10** Диск-канал. **6.35** Погода. **6.40** М/ф. **7.10** Дорожный патруль. **7.25, 12.35, 13.40, 15.40** Телемагазин. **7.45** Аптека. **8.10** Киноподробно. **8.35** "Нью-Йорк, Нью-Йорк". **9.10** Спорт недели. **9.40** "Семья Кэмпбеллов". **10.40** Аптека. **11.00** "Обозреватель". **11.50** "ОСП-студия". **13.05** М/ф. **14.00** Кинопоэма "Человек идет за солнцем". **15.20** "Знак качества". **16.05** "Флиппер". **16.35** Диск-канал. **17.00** Аптека. **17.10** Дорожный патруль. **17.30** Киноподробно. **17.50** "Обозреватель". **19.05** Ток-шоу "Музыка и пресса". **20.15** Театральный понедельник. **21.05** Творческий вечер А. Баталова. **22.25** Катастрофы **23.10** Дорожный патруль. **23.20** Диск-канал.

## Вторник 16 сентября

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.55** "Музыкальная обойма". **7.50** "Селенит". Д/ф. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 0.20** Новости. **8.10** М/ф. **8.30** "Сто лет и вся жизнь..." Телеочерк. **9.00** ТВ — школе **9.30, 17.45** Экономикст. **9.40** "Неделя капитанов". Телеспектакль. **11.20, 18.15** "Берег его жизни". 2-я с. **12.25** Акколада. **15.15** "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. **15.45** Все про все. **16.10** ТВ — школе **16.40** Пограничье. **17.00** Музыкальный антракт. **17.10** Уроки Натальи Новожиловой. **19.20** Тема дня. **19.35** Музыка без границ. **20.00** Творцы. **20.30** "Дожинки-97". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Х/ф "Криминальный талант". 1-я с. **23.00** Футбол. Кубок УЕФА. **23.50** Третий тайм.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.20** Новости **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.45** Смехопанорама. **10.20** Домашняя библиотека **10.30** "Угадай мелодию". **14.20** "Драконы подземелий". М/ф **14.45** Кварьете "Веселая квампания" **14.55** Мультитроллия **15.15** Волшебный мир, или Синема **15.40** "Гарри — зомби из снегов" **16.05** ...До 16 и старше **16.30** Вокруг света **17.20** "Девушка по имени Судьба" **18.10** Час пик **18.35** "Угадай мелодию". **19.00** Тема **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время **20.45** Х/ф "Разные судьбы" **22.45** Хоккей. Евролига.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** "Ветер в спину". **8.15, 17.35** Наш Пушкин. **8.20, 15.30** Лукоморье **9.00** "Санта-Барбара". **13.20** На заметку. **13.25** Деловой автограф. **13.30** Клавир. **13.45** "Несчастная индианка". Х/ф. **15.15** Лучше не бывает. **16.20** Православный календарь. **16.25** "Санта-Барбара". **17.20** Это Москва. **17.40** История одного события. **17.55** "Ветер в спину". **19.35** Национальный интерес. **20.10** "Простая история". Х/ф. **22.15** Вовремя. **22.20** Футбол. Кубок УЕФА. **0.20** Дежурная часть. **0.35** Тихий дом

**5** **12.30, 15.30, 18.30, 21.30** Информ ТВ. **12.45** "Пивные бароны". **13.35** Срок ответа — сегодня. **14.05** Советы садоводам. **14.25, 15.55, 20.00** Моя Россия". **14.55** Взлетная полоса. **15.40, 20.30** Телеслужба безопасности. **16.40** Детское ТВ **18.45** Спорт. **18.55** Большой фестиваль. **19.10** "Пивные бароны". **20.45** Поэзия. А.Фет. **20.50** Сон в летнюю ночь **21.50** Спорт. **21.55** "Салют, Мария!" Х/ф. 1-я с.

**НТВ** **5.00, 9.00** Сегодня утром. **8.05** "Подводная лодка". **9.15** "Пойми меня". **9.50** Новости кино. **10.00** "Мария Вандамм". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **11.15** Старый телевизор. **13.20, 15.20** Финансы и бизнес. **13.30** Х/ф "Смена чувств" (Польша). **15.30** "Улица Сезам". **16.00** Док. сериал "ХХ век в войнах". **16.55** Криминал. **17.00** Впрок. **17.15** Дистанция. **17.30** Футбольный клуб. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.00** Х/ф "Эпоха радио" (США). **21.45** Х/ф "Захватчицы" (Великобритания). 1-я с. **22.40** Сегоднячко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.15** В печать. **23.25** Х/ф "Любовь и бренные останки" (Канада)

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45** "Шесть новостей". **6.10** Диск-канал. **6.40** М/ф. **7.10** Дорожный патруль. **7.20** "Рецепты от Цептера" **7.35** "Весь мир товаров ГУМа". **7.45** Аптека. **8.10** Телеконкретно. **8.30** "Вы — очевидец". **9.15** "Грейс в огне II". **10.15** Аптека. **11.00** Катастрофы недели. **11.30** "Пальчики оближешь" **13.00** М/ф. **14.00** Х/ф "Сережа" **16.05** "Флиппер". **16.35** Диск-канал. **17.10** Аптека. **17.20** Дорожный патруль. **17.35** Нью-Йорк, Нью-Йорк. **18.05** "ОСП-студия". **19.05** Ток-шоу "Профессия". **20.15** Х/ф "Августовские киты" (США). **21.55** "Шоу Бенни Хилла". **22.15** Те Кто. **23.00** Дорожный патруль. **23.15** Диск-канал

## Среда 17 сентября

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.55** "Музыкальная обойма". **7.50** "Медитация". Д/ф. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 24.00** Новости. **8.10** Бездельник. **8.40** Туробъектив. **9.00** ТВ — школе. Белорусская литература. **9.30, 17.45** Экономикст. **9.40** М/ф. **9.55** Телебом. **10.25** Компьютерный полигон. **10.50, 18.15** "Берег его жизни". 3-я с. **11.55** Видимо-невидимо. **15.15** "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. **15.35** "Эта надоедливая оса". Д/ф. **16.10** "Навстречу". V Международный конкурс камерных ансамблей имени М.Огинского. **16.40** "Времена года художника Эдуарда Величко". Телеочерк. **17.00** Музыкальный антракт. **17.10** Арсенал. **19.20** Тема дня. **19.40** Темная комната. **20.05** Ток-шоу "Это моя работа". **20.30** Авто-парк. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** "Криминальный талант". 2-я с. **23.20** Королевская охота.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.30** Новости **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.00** Тема **9.40** В мире животных **10.20** Домашняя библиотека **10.30** "Угадай мелодию". **14.20** "Драконы подземелий". М/ф **14.45** Кактус и К **14.55** Доми-соль **15.15** Зов джунглей **15.40** "Гарри — снежный человек". **16.05** ...До шестнадцати и старше **16.30** Вокруг света **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.05** Погода **18.10** Час пик **18.35** "Угадай мелодию". **19.00** "В поисках утраченного". **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время **20.45** Х/ф "Дядюшкин сон" **22.25** Документальный детектив "Неженская роль"

**РТР** **7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** "Ветер в спину". **8.15, 17.35** Наш Пушкин. **8.20** Лукоморье. **8.50, 9.30** Товары—почтой. **9.00** "Санта-Барбара". **13.20** На заметку. **13.25** Деловой автограф. **13.30** Клавир. **13.45** "Похищение индианки". Х/ф. **15.10** Мир здоровья. **15.20** М/ф. **15.30** Лукоморье. **16.20** Православный календарь. **16.25** "Санта-Барбара". **17.20** Это Москва. **17.40** История одного события. **17.55** "Ветер в спину". **19.35** Национальный интерес. **20.10** "Агенты КГБ тоже влюбляются". Х/ф. **22.15** Вовремя. **22.25** Добрый вечер. **23.10** Дежурная часть. **23.25** "Киношок-97". **23.40** Лестница в небо. **0.10** Телемагазин.

**5** **12.30, 15.30, 18.30, 21.30** Информ ТВ. **12.45** "Предчувствие убийства". Сериал (США). 1-я с. **13.35** Срок ответа — сегодня. **14.05** Советы садоводам. **14.25, 15.55, 20.00** Телестанция "Моя Россия". **14.55** Папа, мама, я — спортивная семья. **15.40, 20.30** Телеслужба безопасности. **16.45** Конкур. **17.25** Телемагазин. **18.45** Спорт. **18.55** Большой фестиваль. **19.10** "Предчувствие убийства". 1-я с. **20.45** Поэзия. А.Фет. **20.50** Сокровища Петербурга. **21.00** Парадоксы истории. **21.50** Спорт. **21.55** "Салют, Мария!" 2-я с.

**НТВ** **5.00, 9.00** Сегодня утром. **8.05** "Цирковые приключения". **9.15** "Пойми меня". **9.50** Новости кино. **10.00** "Цирковые приключения". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня. **11.15** Х/ф "Старший брат" (Франция). **13.20, 15.20** Финансы и бизнес. **13.30** Х/ф "Друг Венсана" (Франция). **15.30** "Улица Сезам". **16.00** "ХХ век в войнах". **16.55** Криминал. **17.00** Впрок. **17.15** Дистанция. **17.45** Футбольный клуб. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.00** Х/ф "Суп с капустой" (Франция). **21.35** Футбол. Лига чемпионов. **23.30** Сегодня в полночь. **23.45** В печать. **0.05** Футбол. Лига чемпионов. **0.30** Х/ф "Страстное желание" (США).

**TV6** **14.05** Х/ф "Белый пароход" **16.05** "Флиппер". **16.35** Диск-канал. **17.10** Аптека. **17.20** Дорожный патруль. **17.35** Диск-канал. **18.55, 20.05, 22.45** "6 новостей". **19.05** Ток-шоу "Я сама". **20.20** Х/ф "Танцы вслепую" (США). **22.15** Те Кто. **23.00** Дорожный патруль. **23.15** Диск-канал

## Четверг 18 сентября

**БТ** **15.00** Новости. **15.15** "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. **15.35** Педагогический экран. **16.05** ТВ — школе. География Беларуси. **16.35** "Музыкальная обойма". **16.40** Экономикст. **16.55** Футбол. Кубок кубков. **18.50** "Жаждет душа чистоты..." Телеочерк. **19.20** Тема дня. **19.40** Сделано в Беларуси. **19.55** "АРТ-клуб". **20.30** Музыкальный антракт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Телебарометр. **22.05** Х/ф "Храни меня, мой талисман". **23.20** Крок. **24.00** Новости. **0.10** Мотоспорт.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10** Новости **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.00** "В поисках утраченного". **9.40** Клуб путешественников **10.30** Домашняя библиотека **10.40** Смак **14.20** "Драконы подземелий". М/ф **14.45** Остров Чунга-Чанга **15.15** Лего-го! **15.40** "Гарри — снежный человек". Комедийный сериал **16.05** ...До шестнадцати и старше **16.30** Вокруг света **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.05** Погода **18.10** Час пик **18.35** Джентльмен-шоу **19.05** Моя семья: криминальные истории **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время **20.45** Х/ф "Черная магия". (США) **22.40** Магия: мир сверхъестественного

**РТР** **7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** "Ветер в спину". **8.15, 17.35** Наш Пушкин. **8.20** Лукоморье. **8.50, 9.50** Товары—почтой. **9.00** "Санта-Барбара". **13.20** На заметку. **13.25** Деловой автограф. **13.30** Клавир. **13.45** "Мементо мори". Х/ф. **15.20** Лучше не бывает. **15.30** Лукоморье. **16.20** Православный календарь. **16.25** "Санта-Барбара". **17.20** Это Москва. **17.40** История одного события. **17.55** "Ветер в спину". **19.35** Национальный интерес. **20.10** "Ночь нежна". Телесериал (США). 1-я с. **21.20** Сам себе режиссер. **22.15** Вовремя. **22.25** Добрый вечер. **23.15** Дежчасть. **23.30** Кафе "Обломов". **23.55** Репортер

**5** **12.30, 15.30, 18.30, 21.30** Информ ТВ. **12.45** "Предчувствие убийства". **13.35** Срок ответа — сегодня. **14.05** Советы садоводам. **14.25, 15.55, 20.00** Телестанция "Моя Россия". **14.55** Храм. **15.40, 20.30** Телеслужба безопасности. **16.40** Детское ТВ. **17.25** Телемагазин. **18.45** Спорт. **18.55** Большой фестиваль. **19.10** "Предчувствие убийства". **20.45** Поэзия. А.Фет. **20.50** "Дом кино". Джулия Орманд, Милош Форман, Кристофер Уокен, Клаус-Мария Брандауэр и др. **21.50** Спорт. **21.55** Исторические расследования. **22.35** Телекомпакт.

**НТВ** **5.00, 9.00** Сегодня утром. **8.05** "Подводная лодка". **9.15** Дог-шоу. **9.50** Новости кино. **10.00** "Мария Вандамм". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **11.15** Старый телевизор. **13.20, 15.20** Финансы и бизнес. **13.30** Х/ф "Перестрелка" (США). **15.30** "Улица Сезам". **16.00** Док. сериал. "ХХ век в войнах". **16.55** Криминал. **17.00** Впрок. **17.15** "Дистанция" + "Щелчок". **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.00** Х/ф "Голубое небо" (США). **21.45** "Захватчицы". **22.35** Сегоднячко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.15** В печать. **23.25** Футбол. Лига чемпионов. **0.30** Х/ф "Человек К".

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45** "Шесть новостей". **6.10** Диск-канал. **6.35** Погода. **6.40** М/ф "Замочек с секретом". **7.10** Дорожный патруль. **7.20** "Рецепты от Цептера" **7.45** Аптека. **8.15** "Великие ценности мира". **8.50** "Назло рекордам!" **9.15** "Грейс в огне II". **10.15** Аптека. **11.00** Х/ф "Девушка с зелеными глазами" (Великобритания). **13.05** М/ф. **14.00** Х/ф "Битва в пути", 1-я с. **16.05** "Флиппер". **16.35** Диск-канал. **17.10** Аптека. **17.20** Дорожный патруль. **17.35** Диск-канал. **18.20** Знак качества. **19.05** Ток-шоу "Сделай шаг". **20.15** "Возникшая из дождя". **21.55** "Шоу Бенни Хилла". **22.15** Те Кто. **23.00** Дорожный патруль. **23.15** Диск-канал.

## Пятница 19 сентября

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.55** "Музыкальная обойма". **7.50** Авто-парк. **8.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.45** Новости. **8.10** Телебарометр. **8.20** Королевская охота. **9.00** ТВ — школе. География Беларуси. **9.30, 17.45** Экономикст. **9.40** Бархатный сезон. **10.10** М/ф. **10.30** Творцы. **10.50** Гости в дом. **11.20, 18.15** Х/ф "Карусель". **12.30** "Зорная ростань". **15.15** "Приключения капитана Врунгеля". М/ф. **15.45** "Переход". **16.10** Усадьба. **16.40** Белорусский меридиан. **17.00** Музыкальный антракт. **17.15** Концертный сезон. **19.20** Тема дня. **19.40** "Простые истории". **20.00** "В джазе только девушки". **20.30** "Дожинки-97". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Х/ф "Женатый холостяк". **23.15** Акколада. **23.55** КВН.

**ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.30** Новости **8.15** "Девушка по имени Судьба". **9.05** Моя семья: криминальные истории **9.45** Пока все дома **10.20** Домашняя библиотека **10.25** Играй, гармонь любимая! **14.20** Х/ф "Повелитель слонов". **16.00** Улица Сезам **16.25** "50 Х 50" **17.20** "Девушка по имени Судьба". **18.10** Погода **18.15** Человек и закон **18.45** Поле чудес **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время **20.45** "Строго на юг" **22.45** Х/ф "Франкенштейн". (США) **0.45** Пресс-экспресс

**РТР** **7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.25** "Ветер в спину". **8.15. 17.35** Наш Пушкин. **8.20** Лукоморье. **8.50, 9.50** Товары—почтой. **9.00** "Санта-Барбара". **13.20** На заметку. **13.25** Деловой автограф. **13.30** Клавир. **13.40** "Мой лучший друг — генерал Василий, сын Иосифа". Х/ф. **15.30** Лукоморье. **16.20** Православный календарь. **16.25** "Санта-Барбара". **17.20** Это Москва. **17.40** История одного события. **17.55** "Ветер в спину". **19.35** Национальный интерес. **20.10** "Ночь нежна". 2-я с. **21.20** Слабо. **22.15** Вовремя. **22.25** Добрый вечер. **23.10** Дежурная часть. **23.30** "Киношок-97". **23.45** Лестница в небо. **0.10** Эх, дороги! **0.40** Телемагазин.

**5** **12.30, 15.30, 18.30, 21.30** Информ ТВ. **12.45** "Театральные истории". Х/ф. **13.35** Срок ответа — сегодня. **14.05** Советы садоводам. **14.25, 20.10** Телестанция "Моя Россия". **14.55** Ток-шоу "Наобум". **15.40, 20.35** Телеслужба безопасности. **16.00** Р.Шуман. Вокальный цикл "Любовь и жизнь женщины". **16.40** Детское ТВ. **17.25** Телемагазин. **18.45** Спорт. **18.55** Большой фестиваль. **19.10** Шоу-звезды. **20.50** Звезды Мариинки. **21.50** Спорт. **21.55** "Личной безопасности не гарантирую". Х/ф.

**НТВ** **5.00, 9.00** Сегодня утром. **8.05** "Подводная лодка". **9.15** Своя игра. **9.50** Новости кино. **10.00** "Мария Вандамм". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **11.15** Старый телевизор. **13.20, 15.20** Финансы и бизнес. **13.30** Х/ф "Папа-призрак" (США). **15.30** Устами младенца. **16.00** Док. сериал. "ХХ век в войнах". **17.00** Теннис. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.00** Х/ф "Джентльмены удачи". **20.40** "Алло, Фима!" **21.45** "Захватчицы". **22.40** Сегоднячко. **23.00** "В полночь". **23.25** "Империя страсти". **0.05** Х/ф "Дети кукурузы-2" (США).

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 20.45, 23.00** "Шесть новостей". **6.10** Диск-канал. **6.35** Погода. **6.40** М/ф. **7.10** Дорожный патруль. **7.20** "Рецепты от Цептера". **7.25, 8.10, 10.25, 12.25, 13.35, 15.35** Телемагазин. **7.45** Аптека. **8.25** Ток-шоу "Мое кино". **9.15** Х/ф "Огонь, вихрь и ураган". **10.40** Аптека. **12.05** "Знак качества". **13.05** М/ф. **14.00** Х/ф "Битва в пути", 2-я с. **16.05** "Флиппер". **16.35** Диск-канал. **17.00** Аптека. **17.10** Дорожный патруль. **17.25** "Ералаш". **17.35** Диск-канал. **18.20** Знак качества. **19.00** Х/ф "Подвиг разведчика". **21.00** Х/ф "Завтра не наступит никогда" (Великобритания). **23.15** Дорожный патруль. **23.30** Диск-канал. **00.15** Знак качества.

## Суббота 20 сентября

**БТ** 8.00 Новости. 8.10 Здоровье. 8.40 "Остров вдохновения". 9.10 "Под углом 23,5 градуса". 9.35 Уроки Натальи Новожиловой. 10.05 Регион. 10.35 "Судьба моя и надежда". 11.10 "Все нормально, мама!" 11.45 Око. 12.05 "Музыкальная обойма". 12.20 Многоголосие. 12.45 Приглашаем на вечерки. 13.15 "Макаенка,9". 13.35 Поэзия В.Хлебникова. 14.05 Владимир Спиваков и "Виртуозы Москвы". 15.00 Новости. 15.20 Телеспорт. 16.05 "Все мы родом из детства". 17.00 "Риск-версия". 17.30 Белорусский дом. 18.00 Зорная ростань. 18.25 Галерея. 19.00 "Сожский хоровод". 20.15 История любви. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.50 Теленавигатор. 22.10 Х/ф "Фанни и Александр". (Швеция-Франция-ФРГ).Часть 1-я. 23.55 Третий тайм. 0.15 Видимо-невидимо.

**ОРТ** 7.00 Х/ф "Приступить к ликвидации". 1-я с. 8.10 "Каштанка". М/ф 8.40 Лотто-Миллион 8.45 Слово пастыря. 9.00, 14.00, 17.00 Новости 9.10 Домашняя библиотека 9.30 Утренняя почта 10.05 "Каламбур". 10.40 Смак 11.00 Возвращение Третьяковки. 11.25 Х/ф "Путешествие в другой город" 13.00 "Старые знакомые". М/ф 13.25 "Коренная москвичка". 14.15 Очевидное — невероятное 14.45 М/ф. 15.50 Америка с М.Таратутой 16.20 В мире животных 17.20 "Колесо истории" 18.10 Д/ф "Записки из мертвого дома" 18.50 "Строго на юг" 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.00 Время 20.55 Погода 21.00 Х/ф "Женитьба Бальзаминова" 22.50 Х/ф "Соломенные псы"

**РТР** 6.00 М/ф. 6.30 "Арабелла возвращается, или Румбурак — король страны сказок". 7.30 Утренний экспресс. 8.30 "Меморина". 9.00 Доброе утро, страна! 9.30 Человек на земле. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.20 Лучшие игры НБА. 11.15 Парламентский вестник. 11.45 Новая Россия. 12.00 "Новодевичий монастырь". 12.30 Надо жить играючи. 13.00, 19.00 Вести. 13.20 Компьютер. 13.35 "Тихий Дон". Х/ф. 1-я с. 15.25 Книжная лавка. 15.55 Футбол. Чемпионат России. 17.55 Телескоп. 18.25 Момент истины. 19.35 "Городок". 20.10 "Ночь нежна". 21.25 Совершенно секретно. 22.20 "Ленкому" — 70". 0.10 Музыкальная программа.

**5** 9.30, 12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Информ ТВ. 9.45 "Парад парадов" представляет... 10.15 Слово — депутатам. 10.20 Честь имею. 10.45 "Окно в мир". Д/ф. 12.00 Ток-шоу "Наобум". 12.45 Страсти-мордасти. 13.00 Золотой фонд. 14.30 Игра "Лотто-бинго". 15.45 Спортивное обозрение. 16.05 Храм. 16.35 Танцующий мир. 16.55 "Белая полоса". Текила-джаз-з-з. 17.25 Телемагазин. 18.55 Большой фестиваль. 19.15 Музыкальный ринг. 20.50 Блеф-клуб. 21.45 Звездный розыгрыш. 22.15 "Посвященный". Х/ф.

**НТВ** 7.00 Х/ф "В шесть часов вечера после войны". 8.35 М/ф "Назад в будущее". 9.00 Сегодня . 9.10 "Итого". 9.30 "Пойми меня". 10.00 "Война в космосе". 10.45 От "Винта". 11.00, 15.00 Сегодня днем. 11.15 "Панорама" с Всеволодом Овчинниковым. 11.45 Криминал. 12.00 Хоккей. Чемпионат России. 14.30 "Маски-шоу: избранное". 15.15 Звезды в квадрате, или Проще простого. 16.00 "Железный занавес". 17.00 Дог-шоу. 17.30 Герой дня без галстука. 18.00, 21.00 Сегодня вечером. 18.30 Х/ф "Займемся любовью" (США). 20.45 Куклы. 21.45 "Байки из склепа". 22.15 "Кнопка плюс". 22.30 "Футбольный клуб". 23.20 "Про это". 0.05 "Плейбой — шоу".

**TV6** 6.00, 7.00, 22. 50 "Шесть новостей". 6.10 Диск-канал. 7.11 Дорожный патруль. 7.35 М/ф. 8.05 "Цептер-Клуб". 8.25 Х/ф "Приключения на маленьких островках". 9.50 "Ералаш". 10.15 Сериал о природе. 11.45 Кинескоп. 12.50 Диск-канал для детей. 13.45 Ток-шоу "Я сама". 14.45 "Профессия". 15.40 "Клуб одиноких сердец". 16.15 "Мария Антуанетта". 17.15 "Ералаш". 17.35 Диск-канал. 18.55 Скандалы недели. 19.30 "ОСП-студия". 20.20 "Фитиль". 20.35 Х/ф "Трещина" (Испания). 22.30 "Обоз". 23.25 Дорожный патруль. 23.40 Диск-канал. 00.45 Х/ф "Неприкаянные сердца" (США).

## Воскресенье 21 сентября

**БТ** 8.00 "Коктейль по воскресеньям". 9.00 Мультиклуб. 9.30 Вершина мира. 10.05 "Все нормально, мама!" 10.40 Туробъектив. 11.00 Арсенал. 11.30 "Война в воздухе". 11.55 Сельчане. 12.15 "Навстречу". 12.35 "Я рисую". 12.50 Олимп. 13.10 Сущность. 13.50 Концертный сезон. 14.15 Творцы. 15.00 Новости. 15.20 "Золотые ключи". 15.55 "Экомир-97". 16.25 Греко-римская борьба. 16.45 Гандбол. 17.20 "Оскар". 17.50 "Шклов-97". 19.05 Бездельник. 19.40 Колыбельная. 20.00 Резонанс. 20.50 Спортивный телекурьер. 21.10 Телебарометр. 21.25 Ток-шоу "Карамболь". 22.00 "Фанни и Александр". Часть 2-я. 23.25 Республиканский турнир по мини-футболу. 0.10 Бархатный сезон.

**ОРТ** 7.00 "Приступить к ликвидации", 2-я с. 8.10 М/ф. 8.55 Спортлото 9.00, 14.00, 22.45 Новости 9.15 "Непутевые заметки" Дм.Крылова 9.30 Пока все дома 10.10 Утренняя звезда 11.00 Служу России! 11.30 Играй, гармонь любимая! 12.00 Сельский час. 12.30 "Подводная одиссея команды Кусто". 13.20 Смехопанорама. 14.15 "Приглашение к музыке" 14.45 Клуб путешественников 15.30 Мультфейерверк 16.20 "Один на один". 16.50 Счастливый случай 17.40 Футбольное обозрение 18.10 Песня-97 18.50 Погода 18.55 "Строго на юг" 19.50 Киноафиша 20.00 Время 20.40 Х/ф "Терминатор" 23.00 Х/ф "Банкирша"

**РТР** 6.00 М/ф. 6.30 "Арабелла, или Румбурак — король страны сказок". 7.30 Утренний экспресс. 8.30 L-клуб. 9.00 Доброе утро, страна! 9.30 Присяга. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.20 Русское лото. 11.00 Диалоги о животных. 11.15 Пульс. 11.40 Новая Россия. 12.00 Люди, деньги, жизнь... 12.30 Довгань-шоу. 13.00 Вести. 13.20 900 кубов. 13.35 "Тихий Дон". 2-я с. 15.35 Бесконечное путешествие. 16.00 Игра всерьез. 16.30 У всех на устах. 16.55 Двойной портрет. 17.25 Неизвестная планета. 17.55 Старая квартира. Год 1955. 19.00 Зеркало. 19.55 "Ночь нежна". 21.00 "К-2" представляет: "Уловка-22". 22.00 Подиум д'АРТ. 22.30 Любовь с первого взгляда. 23.05 "Хроника насильственной любви". Х/ф (Италия). 0.45 "Киношок-97".

**5** 9.30, 12.30, 15.30 Информ ТВ. 9.45 Папа, мама, я — спортивная семья. 10.15 Овертайм. 10.40 "Индаба". 11.05 "Дикие собаки". Док. сериал (Франция). 12.00 Старое танго. 12.45 Экспресс-кино. 13.05 "Дверь без замка". Х/ф. 14.45 Исторические расследования. 15.45 Спортивное обозрение. 16.05 Детское ТВ. 16.55 Роман с героем. 17.25 Телемагазин. 18.30 Обратный отсчет. 18.55 Большой фестиваль. 19.10 Х/ф "Бабник". 20.20 Загадка Шекспира. 20.45 Ноу смокинг. 21.30 У всех на виду. 21.45 Международное обозрение. 22.15 "Парад парадов" представляет... хиты сезона.

**НТВ** 7.00 Золотой патефон. 7.30 Время "Ч" с Ольгой Кучкиной. 8.00 Новости дня с Наталией Антоновой. 8.15 Среда. 8.30 М/ф "Назад в будущее". 9.00 Сегодня утром. 9.15 Кнопка плюс. 9.30 "Пойми меня". 10.00 "Война в космосе". 10.45 От "Винта". 11.00, 15.00 Сегодня днем. 11.15 Полицейские будни. 11.30 Век футбола. 12.00 Х/ф "Последний куплет" (Испания). 14.00 Своя игра. 14.30 "Маски-шоу: избранное". 15.30 Устами младенца. 16.00 "Саванна". 17.00 Сегодня вечером. 17.30 Х/ф "Дюна" (США). 20.00 Итоги. 21.15 Х/ф "Бухта смерти". 23.15 Кнопка плюс. 23.30 Х/ф "Спасите меня" (США).

**TV6** 6.00, 7.00, 16.50 "Шесть новостей". 6.10 Диск-канал. 7.10 Дорожный патруль. 7.20, 10.20, 14.55, 15.50 Телемагазин. 7.35 М/ф. 8.00 Х/ф "Гордый бунтарь" (США). 9.50 "Пальчики оближешь". 10.30 "Назло рекордам!" 10.55 Сериал о природе. 11.35 "Канон". 12.05 "Красноярские свадьбы". 12.40 Ток-шоу "Музыка и пресса". 13.35 Ток-шоу "Сделай шаг". 14.30 Спорт недели. 15.15 "Ералаш". 15.40 "Москва Александра Гордона". 16.00 "Мария Антуанетта". 17.00 Творческий вечер Алексея Баталова. 18.15 Ток-шоу "Мое кино". 19.10 "Фитиль". 19.25 Х/ф "Прорыв". 21.25 "Успеть вспомнить" (США). 23.15 "PartyZone"

## Поўныя кішэні музыкі

# Зміцер Бартосік.

### Беларускі бард паходжаннем з Ніжняга Ноўгарада



**Што ж такое павінна здарыцца з чалавекам, каб ён адарваўся ад роднай зямлі, распачаў падарожжа і, у рэшце рэшт, застаўся жыць у іншай краіне, ушанаваўшы яе звычаі, мову, людзей. А потым стаў для тутэйшых жыхароў адным з найраднейшых спевакоў. Вось і я слухаю песні пад гітару, атрымліваю асалоду і дакладна разумею, што толькі свабода і каханне натхняюць. Што свабода і каханне — па-над усялякімі межамі. Паспрабуйце і вы павандраваць са спевамі Зміцера Бартосіка, беларускага барда.**

### – Карані ў Паволжы

— Мае карані не беларускія, бо тата сам з Польшчы, а мама і яе продкі ўсё жыццё правялі на Волзе ў Ніжнім Ноўгарадзе. Гэта вельмі прыгожы горад, там жывуць усе мае сваякі, і я таксама пасля службы ў войску хацеў зачапіцца ў Ніжнім. Але не атрымалася.

У 1991 годзе апынуўся на Беларусі.

### – Песні па-беларуску

— Я пачынаў пісаць па-расійску, калі вучыўся ў Ніжагародскай тэатральнай вучэльні. Слухаў Высоцкага, Акуджаву. Вядома, пераймаў іх манеру выканання, і гэта было не вельмі цікава, таму паціху ўсё закінуў. Пасля прыехаў сюды, захапіўся асяроддзем, мовай. Бо, калі для сярэднегарадскога беларуса мова - гэта нешта адмерлае, то ў мяне, чалавека нетутэйшага, такога комплексу не было. Ваша мова такая ж цікавая, як і ўсе, напоўненая своеасаблівым гумарам. Паспрабаваў ізноў пісаць песні. Спадабалася, найперш, самому сабе. А меркаваць вам.

### – Палітычныя працэсы як штуршок да натхнення

— Справа нават не ў мове. Спадабалася сама ідэя - удзельнічаць у ператварэнні былой савецкай рэспублікі ў нармальную незалежную дзяржаву еўрапейскага разліву. Да гэтага я правёў паўтара года ў Літве, у Вільні, бачыў, як адраджаецца тая зямля. Якраз тая самая "Нашаніўская пара", пра якую цяпер згадваю з настальгіяй.

### – Наш край. Акрамя Маладзечна...

— А вось ні фіга не акрамя. Я ж пабываў шмат дзе ў Беларусі. Не хацеў бы, каб мяне зразумелі так, што вось вырашыў зрабіць нейкі кампліменцік Маладзечну. Гэта ж аптымальны беларускі горад па памерах і, адпаведна гэтым памерам, па напоўненасці культурным жыццём. Ёсць у вас і тэатр, і футбол (які цяпер пакідае жадаць лепшага), праводзяцца фестывалі, канцэрты. Пабудавалі касцёл.

У 1992 годзе мяне вельмі ўразіла, калі я пачуў беларускую мову, амаль літаратурную, ад нейкіх двух дзядзек алкашнага выгляду. Яны выбіралі пласцінку, здаецца, Шуфуцінскага ці нейкую расійскую папсу, і адзін аднаму кажа: "Трэба ўзяць, зусім неблагія песенькі..."

Да таго ж, у вас шмат такіх дробязяў накшталт табло на вакзале, шыльдаў, зробленых на роднай мове. Гэтага ў Гомелі, напрыклад, амаль няма.

### – Павандраваць, паглядзець, пажыць...

— Я пабачыў ужо Расію, Вільню, Беларусь. Не так даўно наведаў Польшчу. Хацелася б паслухаць шансон у Парыжы, не праехацца па Францыі, а пабываць у Парыжы. Нават так: ёсць шмат цікавых гарадоў, але калі гэта Еўропа - то Парыж. Калі Паўночная Амерыка - Нью Ёрк. Паўднёвая - Рыо-дэ-Жанейра, не таму, што туды марыў адправіцца Астап Бендэр, а паглядзець на карнавал. Азія - Тайланд, краіна-загадка. З Афрыкай складана... Можа, Гандурас... Але гэта не Афрыка...

*"У гэты змрочны час*
*Не трапіш у кафэ.*
*Пусцеюць крамы*
*І праспекты Гандураса,*
*Калі ідзе па гандураскім*
*палпэтэ*
*Любімы ўсімі серыял*
*пра дон Лукаса.*
*На перапынак*
*зачыняецца прагрэс..."*

І гэтак далей.

### – Маленькая казка напрыканцы

— З маленькай казкай пакуль не атрымліваецца. Але хацелася б скончыць аптымістычна, бо апошні год я хадзіў сумны, пануры, усё было дрэнна, мова ў загане. А цяпер нейкая ідзе хваля аптымізму, якая вылечвае ад хваравітага стану. Усё часцей сустракаю людзей, з якімі можна нармальна паразмаўляць. Па-беларуску.



### – І галоўнае...

*— Ледзь не забыўся! Па колькасці прыгожых кабет, дзяўчат, дзяўчынак на кадратны метр ці сантыметр з Маладзечнам не можа параўнацца ніводзін горад Беларусі ці, нават, не толькі Беларусі.*

***На гэтым мы развіталіся.***
***Алег ГУЛЕЦКІ, фота аўтара***

## Беларускі хіт-парад

У нашай краіне сапраўднага беларускага хіт-парада ніколі не існавала. Пад шыльдай хіт-парада прапаноўваліся звычайныя рэйтынгі, складзеныя па ліставаннях ці тэлефанаваннях, у адрозненне ад іншых краінаў, дзе хіт-парады складаліся па продажы кампакт-дыскаў. Першымі пачалі складаць беларускія хіт-парады Вітаўт Мартыненка і Анатоль Мяльгуй, аўтары адзінай да гэтага часу кнігі пра беларускую музыку "Праз рок-прызму" (1989 г., Нью-Ёрк).

На Беларускім радыё, на радыёстанцыі "Беларуская Маладзёжная" некалькі год праіснаваў "Хіт-парад Б. М.", які вёў журналіст Віталь Сямашка. Пасля закрыцця "Беларускай Маладзёжнай" пэўны час выходзіў "Беларускі хіт-парад", створаны Аксанай Лявіцкай, Юрыем Рашэтнікавым, Максам Івашыным. На жаль, і яго ўжо не існуе.

На базе газеты "Наша Ніва" працуе сістэма "Касеты - поштай" (іх колькасць ужо больш за 70). што дазваляе складаць аб'ектыўны хіт-парад. Яго мы і прапануем да ўвагі чытачоў.

## ЖНІВЕНЬ

1. **Данчык.** Мы яшчэ сустрэнемся. Літ. маст. суполка.
2. **HRM**. Одзірыдзідзіна. Каўчэг.
3. **Новае неба.** Мая краіна. Каўчэг.
4. **Віктар Шалкевіч.** Смутны беларускі блюз. Ton-records.
5. **Камелот.** У краіне талераў. Ton-records.
6. **Ален.** Нармалёк. Vigma.
7. **Андрэй Мельнікаў.** Шлях. Беласток.
8. **КРАМА.** Камендант. Vigma.
9. **Жыгімонт Ваза.** Стан галюцынацыі. Skat.
10. **Крывi.** Kriwi. Каўчэг.

Хто жадае замовіць касеты, можа звяртацца: 220085 Мінск, а/с 5, Супрановіч Віталь. Тэл. у Мінску 310408, 490888; тэл. у Мал. 53769, Алесь Дудко.

***Вітаўт ПАЗНЯКЕВІЧ.***

Віртуальныя гульні летняй ноччу



# Казка пра Інтэрнэт



*Было гэта ў далёкія шасцідзесятыя. Жылі-былі ў ЗША два хлопцы. Яны працавалі на тагачасных камп'ютэрах - павольна і нетаропка. Захацелася ім гэтыя працэс паскорыць і было вырашана аб'ядноўваць свае камп'ютэры ў сетку праз звычайную тэлефонную лінію. Ідэя спадабалася. Праз некалькі месяцаў да іх далучыліся 200 чалавек, потым навучальныя ўстановы, пасля... Увесь свет. Назву нават прыдумалі - INTERNET.*

- І ўсё гэта бясплатна? - спытаецеся вы. Не зусім. Паспрабуйце звязацца з сябрамі праз INTERNET, а потым па тэлефоне - і падлічыце! У параўнанні і зразумееце, што INTERNET - гэта ж амаль бясплатна. А колькі задавальнення!

Вось, здаецца, і ўсё: сетка працуе, усе задаволеныя. Але нешта было не так. То пошта недзе згіне, то яшчэ штонебудзь. Падумалі крыху і зразумелі - гэта таму, што кожны ўсё робіць па-свойму, няма адзінага стандарту.

Тады сабралі савет мудрых. Назвалі яго **IETF** *(Internet Engineering Task Force)*. Падумалі інжынеры, там падцягнулі, там падкруцілі, там падмазалі - ізноў запрацавала сетка. Людзі атрымлівалі навіны, абменьваліся поштай, інфармацыяй, а хлопец з Маладзечна запраста мог пагуляць у "DOOM-II" з хлопцам з Лос-Анджэлеса.

Сетка INTERNET расла, шмат інфармацыі стала сакрэтнай, спатрэбілася абарона ад незаконнага карыстання гэтай інфармацыяй. І тут, вядома, з'явіліся людзі, якія ламалі ўсе сістэмы абароны. Гэта былі хакеры. Але хакеры былі і добрыя, і злыя. Калі добрыя знаходзілі дзірку ў абароне якога-небудзь камп'ютэра, адразу ж беглі да гаспадара гэтага камп'ютэра і казалі яму аб гэтым. Гаспадар ім дзякаваў і бег ставіць латку на дзірку. А злыя хакеры нікому нічога не казалі, узламвалі, што хацелі, толькі пасмейваліся. Да сённяшняга дня захаваліся і тыя, і іншыя.

*Цяпер INTERNET - гэта паводка, якая паступова залівае ўжо і Беларусь. А чаму "інтэрнэцяць" ноччу? Вядома - ўдзень да суседа бывае не дазвонішся, а не тое што ў ЗША.*

*Мемфіс* **КАЗАЧНІК**



# "Міс на біс"

*МАЛАДЗЕЧНА. У ліпені ў беларускай гімназіі працаваў гарадскі летнік "Рамантык". Яго наведвалі дзеці 6-15-гадовага ўзросту.*

Цікавая і разнастайная праграма не дазваляла сумаваць: паездкі на Нарач, Чырвоны Беражок, гульні "Што? Дзе? Калі?" і "Брэйн-рынг", конкурс прыгажосці "Міс летніка". У ім прымалі ўдзел 14 дзяўчынак. Дзяўчаты паказвалі сваё ўменне трымацца на сцэне, танцаваць, імправізаваць на тэмы песень сучасных выканаўцаў (Караліны, Апінай, Буланавай). Першае месца і званне "Міс летніка" атрымала Юля Мартынsocks. Яна ж атрымала і прыз глядацкіх сімпатый. "Міс Зачараванне" стала Надзея Каралёва. А званне "Міс Грацыя" было прысуджана Ульяне Петуховай.

*Таня МІР*
*СШ №9.*




Сны бываюць цікавымі і каляровымі, давайце дзяліцца імі на старонках "М". Чакаю нататак ці замалёвак.
*Ідэя Яўгеніі Яліны.*
*О'Ле Лукое*

Адгаданка

# Сціплая ўсмешка зорак эстрады

**Распачынаем 4 тур конкурсу. Умовы застаюцца ранейшымі (1 адказ - 1 бал, за 3 адказы - 5 балаў). Дасылайце лісты, свае фота, а таксама (!) "заяўкі" на прызы.**

Падказка да 4 тура - гэтыя твары некалі належалі зоркам расійскай эстрады, за што прашу прабачэння! Іх імёны наступныя - **Таня, Вовачка і Андрэйка.**



А спартсмены! Хто гэта быў нават сорамна казаць, таму што амаль усе адгадалі, што №1 - Міхаэль **Шумахер**, №2 - Майкл **Джордан**, №3 - Дыега **Марадона.**






Памятайце, ніколі не позна далучыцца да ўдзельнікаў, наперадзе яшчэ дзевяць твараў тых, хто ўсміхнецца для вас. Патэнцыяльна гэта 15 балаў, таму - наперад і з песняй!

*Дзядзька ГО*

Хлопцы і дзяўчаты, паважаныя нашы чытачы! Рэдакцыя "Маладзёжкі" заўжды рада вашым лістам. Пішыце, што вас хвалюе, расказвайце аб падзеях, якія вас уразілі, падзяліцеся сваімі захапленнямі, думкамі, нават фантазіямі і марамі, магчыма, у вас есць пытанні, якія цікава абмеркаваць на старонках газеты. На любой мове - мы зразумеем. Давайце сябраваць.

**Наш адрас: 222310, г. Маладзечна, вул. Б.Хмяльніцкага, 10. Рэдакцыя "РГ", для "Маладзёжкі".**

*Між іншым, калі вы дашлеце сваё фота, то яно будзе змешчана разам з пісьмом.*

Падарожжа павінна быць цікавым

# Лепш за канікулы могуць быць толькі канікулы. Асабліва ў гарах

***Пра гэты паход мы марылі цэлы год. Прайшоўшы той маршрут летась, я цвёрда вырашыў пабываць тут усёй сям'ёй разам з дзецьмі. Вось і пачаў купляць па 20 долараў з кожнай зарплаты для поспеху мерапрыемства. Вечарамі сынам расказваў пра горы, пра мора. А сам 9 месяцаў запрашаў іншыя сем'і ў групу.***



Кандыдатаў было дастаткова, але чым больш набліжаўся тэрмін падарожжа па розных прычынах людзі са шкадаваннем адмаўляліся. То не хапала грошай, то не задавальнялі тэрміны паходу, то мама (тата аддаваў перавагу іншаму віду адпачынку) пабойвалася адправіцца адна. Гэта і зразумела, ёй жа ў адзін рукзак патрэбна скласці рэчаў на двух чалавек. Але ўрэшце рэшт нас сабралася 12 чалавек: 3 сям'і і адзін прадстаўнік чацвёртай сям'і Прытковых - Сяргей. А астатняя каманда выглядала так: сям'я Бялковых (Маладзечна) - тата, мама, сын Ваня (9 год), сын Коля (7 год), сям'я Кісель (Мінск) - тата, мама, дачка Маша (8 год), Ваня, наш самы маленькі ўдзельнік (5 год), сям'я Сасноўскіх (Вілейка) - тата, сын Саша (15 год), другі сын Пеця (8 год). Вось і ўся наша кампанія. Усе дзеці і адзін тата, Генадзь Кісель, упершыню пешшу прайшлі горны маршрут другой катэгорыі складанасці. Было пераадолена сем перавалаў на вышыні ад 1 кіламетра да 1886 метраў.

У гэтым паходзе многае было ўпершыню. Упершыню быў арганізаваны сямейны паход у горах. Упершыню у нашым клубе прайшоў паход II катэгорыі складанасці пяцігадовы ўдзельнік - Ваня Кісель. Упершыню дзеці бачылі мора.

Паход з дзецьмі - гэта не страшна. Гэта маму палохае дождж, а малыя яму радуюцца, гэта тата думае, як адрамантаваць парваныя чаравікі, а дзеці радуюцца сонцу, светлячкам, якія такія вялікія і дзесяткамі лётаюць каля нашай стаянкі.

На маршруце мы сустрэлі ўсяго 2 групы: адну з Луганска, другую з Тулы. Група з Тулы была таксама сямейная. Але яны, у адрозненне ад нас, не прайшлі свой маршрут. Усё ж трэба вельмі ўважліва разлічваць хадавыя дні з разлікам на самых маленькіх. Мясцовыя жыхары (калі можна так назваць пастухоў і тых, хто адпачывае ў іх балаганах) ставіліся да нас цудоўна. Частавалі малаком і мёдам дзяцей. На тварах - заўсёды ўсмешка. Мы паглядзелі вадаспад на рацэ Шахе (самы высокі ў Еўропе - 200 м), вадаспады на р. Вялікі Руфабго. І назвы ў іх цікавыя: Шум, Зачараванне, Шнурок, Дзявочыя косы, Чаша Кахання. А наведванне Азішскай пячоры? Усе сталактыты, сталагнаты і сталагніты - самых разнастайных формаў! Наогул, сям'ёй у паход - гэта цудоўна.



**Не ўсялякі дарослы згадзіцца гэты мосцік перайсці...**

***Сяргей БЯЛКОЎ,***
***майстар спорту***
***па турызме.***

Над спецыяльным укладышам да "РГ" працавалі **Таццяна Мір, Ігар Войтка, Вітаўт Пазнякевіч, Сяргей Бялкоў, Алег Гулецкі.** Летнік наведала **Люда Глінская.**

Камп'ютэрная вёрстка - **Мікі Нокс.**

Прыносьце свае матэрыялы, фотаздымкі па панядзелках. Калі вы жывяце ў іншым горадзе ці раёне тэлефануйце, будзем сустракацца па выхадных.

Наступны выпуск выйдзе ў сярэдзіне кастрычніка.



Яўрэйскі анекдот

# Кравец, шавец, крамнік

✡ ✡ ✡

У краму заходзіць пакупнік і просіць падаць чырвоную тканіну. Гаспадар нешта выглядае на паліцах, выцягвае рулю жоўтай і кладзе перад кліентам.

- Але ж я прасіў чырвоную тканіну.

- Хвіліначку!

Праз хвіліну гандляр кладзе перад наведвальнікам ружовую тканіну. Кліент упарціцца і просіць чырвоную. Гаспадар спрабуе падаць яшчэ белую, блакітную... Калі ў яго не атрымліваецца ўгаварыць госця зрабіць пакупку, з усмешкай гаворыць:

- Ведаеце, такой, **абсалютна чырвонай**, такой тканіны мы не маем.

✡ ✡ ✡

У камяніцы побач мясціліся тры невялічкія абутковыя крамы. Зразумела, што гандаль у іх ішоў як мокрае гарыць.

Аднаго дня гаспадар крайняй крамкі павесіў вялізную шыльду: "Продаж моднага абутку".

Калі гэта заўважыў яўрэй, чыя крама мясцілася з процілеглага боку камяніцы, таксама вывесіў шыльду: "Самы танны продаж імпартнага абутку".

Заўважыў гэтыя надпісы гаспадар крамкі, што ўціснулася пасярод гэтых дзвюх. Ён нядоўга разважаў і над сваімі дзвярыма павесіў шыльду: "Галоўны ўваход".

✡ ✡ ✡

Прыйшоў кліент да краўца заказаць сподні. Першая прымерка была праз тыдзень. Другая - праз месяц. А гатовыя штаны з вялікімі цяжкасцямі змог выбіць у краўца толькі праз тры месяцы. Таму кліент і абурыўся:

- Шаноўны, але ж ваш Пан Бог стварыў свет усяго толькі за шэсць дзён. А вам на нейкую пару нагавіц спатрэбілася ажно тры месяцы!?

- Пане каханы, - адказаў кравец, - але паглядзіце на гэтыя штаны і паглядзіце на гэты свет!..

✡ ✡ ✡

Кравецкія справы пайшлі на занепад. Розенберг звяртаецца са шкадаваннем да калегі:

- Толькі месія можа нам дапамагчы.

- Якім чынам?

- Якім чынам? Вельмі проста. Месія ажывіць усіх людзей, што памерлі ад самага паўстання свету. А што, яны не будуць патрабаваць для сябе адзення?

- Мой даражэнькі, суцішся, ты ведаеш, колькі сярод іх будзе краўцоў?

- Ну і што? Ці яны будуць ведаць сёлетнюю моду?

✡ ✡ ✡

Жонка гандляра, які едзе на кірмаш з трыма тузінамі сподняў, кажа яму на развітанне:

- Шчаслівай дарогі і дай Бог, каб ты вярнуўся без штаноў!

**The United States Information Service of the Embassy of the United States of America in Belarus hereby announces a program for short-term internship training in the United States.**

Candidates in the Community Connections Program will have the opportunity to participate in a four to six week intership program in the United States with companies or organisations whose activities are related to those of the participants. All participants must have a good working knowledge of the English language.

Recruitment and selection of participants in the Community Connections Program is being administered by the American Council for Collaboration in Education and Language Study (ACCELS) in Belarus. **A presentation will be held at 11:00 AM on Friday the 12th of September at club "Пілігрым", Ulitsa Chapayeva, 4. All of those who are interested are invited to attend.**

For information concerning application procedures and specific program guidelines, please contact the American Council for Collaboration in Education and Language Study, Minsk, Belarus.

ACCELS
**Tel/Fax: (017)236-68-83**
**E-mail: stickney@accels.unibel.by**

**Амерыканская Інфармацыйная Служба Пасольства ЗША ў Беларусі гэтым аб'яўляе праграму кароткатэрміновага міжнароднага навучання ў ЗША (кароткатэрміновыя міжнародныя курсы).**

Кандыдаты Праграмы Грамадскіх Сувязей будуць мець магчымасць прыняць удзел у 4-6-тыднёвай міжнароднай праграме ў ЗША сумесна з фірмамі ці арганізацыямі, чыя дзейнасць звязана з дзейнасцю ўдзельнікаў.

Усе ўдзельнікі павінны добра валодаць англійскай мовай.

Набор і адбор удзельнікаў Праграмы Грамадскіх Сувязей адбываецца пад кіраўніцтвам Амерыканскага Савета па супрацоўніцтве ў адукацыі і моўнаму навучанню (ACCELS) ў Беларусі. **Прэзентацыя адбудзецца ў 11-00 у пятніцу, 12 верасня ў Маладзечне па вул. Чапаева, 4 (турклуб "Пілігрым"). Запрашаюцца ўсе, хто выяўляе цікавасць.**

Для атрымання інфармацыі адносна працэдуры заяў і спецыяльнага праграмнага кіраўніцтва да дзеяння, калі ласка, звяжыцеся з Амерыканскім Саветам па супрацоўніцтве ў адукацыі і вывучэнні моваў, Мінск, Беларусь.

ACCELS
**Тэл./факс: (017)236-68-83**
**E-mail: stickney@accels.unibel.by**

## Хабар малы, тэрмін вялікі

*АСТРАВЕЦ. У мінулую суботу арыштаваны адзін з супрацоўнікаў мясцовай мытні. Ён абвінавачваецца ў атрыманні хабару.*

5-гадзінныя аператыўныя мерапрыемствы, якія па гарачых слядах правялі супрацоўнікі пракуратуры і міліцыі Астраўца і суседніх Ашмянаў, факт пацвердзілі.

Калі справа дойдзе да суда, то былы мытнік за атрыманы хабар у памеры 500 тысяч рублёў можа атрымаць ад 5 да 15 год зняволення з канфіскацыяй маёмасці.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

